*Інфармацыя Аналітыка Публіцыстыка*

**№33 студзень 2014**

# ПРЭЗУМПЦЫЯ

**Гарадзенскі праваабарончы інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь**

**у нумары:**



Заява на рэгістрацыю кандыдатуры Алеся Бяляцкага перададзеная ў Нобелеўскі камітэт Ст. 2

**у нумары:**



Зварот арганізацый грамадзянскай супольнасці і грамадскіх актывістаў Беларусі з нагоды сітуацыі ва Украіне Ст. 5

**у нумары:**




Каляндар памятных і круглых датаў Гарадзеншчыны на люты 2014 году Ст. 7

## Кнігу Алеся Бяляцкага “Асьвечаныя Беларушчынай” забаранілі да ўвозу ў Беларусь




***У пачатку студзеня сябру Рады Праваабарончага цэнтра “Вясна” Таццяне Рэвяка было даслана паведамленне за подпісам намесніка начальніка Ашмянскай мытні А.В. Датчука, у якім сказана, што мытня атрымала з Галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай працы, культуры і па справах моладзі Гродненскага аблвыканкаму заключэнне экспертнай камісіі па выніках вывучэння друкаванага выдання “Асьвечаныя Беларушчынай”, аўтарам якога з’яўляецца праваабаронца і літаратар, палітвязень Алесь Бяляцкі.***

## Алесь Бяляцкі здолеў павіншаваць жонку



Аднак паштовая сувязь родных з палітзняволеным кіраўніком Праваабарончага цэнтра "Вясна" Алесем Бяляцкім зноў пагоршылася. Ягоная жонка Наталля Пінчук атрымала ад яго паштоўку з віншаваннямі да свайго Дня нараджэння. Але абяцанага раней тэлефанавання ад мужа з Бабруйскай калоніі №2 так і не дачакалася.

- Дваццаць шостага я чакала тэлефанавання ад яго, але яно так і не адбылося. Звычайна, калі ён папярэджвае, што будзе званіць, тэлефанаванне адбываецца. Але не ў гэты раз. На наступны дзень я атрымала ад яго пасланне: канверт, у якім былі віншавальная паштоўка і ліст. Калі паштоўка была адрасаваная мне, то калі я пачала чытаць ліст, то зразумела, што ён адрасаваны іншай асобе.

Наталля Пінчук не выключае, што, мажліва, лісты пераблытала цэнзура, якая чытае ўсе пасланні ад Алеся Бяляцкага і да яго.

Кіраўнік Беларусі Аляксандр Лукашэнка нядаўна выказаўся пра магчымасць амністыі для Бяляцкага. Але родныя і калегі праваабаронцы з сумневам успрынялі гэтыя словы.

## ЕЗ не пойдзе на кампраміс у пытанні палітзняволеных у Беларусі

Пра гэта заявіў кіраўнік Дэпартамента палітыкі, інфармацыі і прэсы прадстаўніцтва ЕЗ у Беларусі Рудольф Рышар у час круглага стала на тэму беларуска-еўрапейскіх адносін пасля Віленскага саміту Усходняга партнёрства.



- Як вы ведаеце, для паўнавартаснага наладжвання адносін ёсць некаторыя ўмовы, якія да гэтага часу не здзейсненыя. З нашага боку нейкага кампрамісу я не бачу, пакуль канкрэтныя рашэнні не будуць прынятыя.

Рудольф Рышар зазначыў, што ў Еўропе пачулі словы Аляксандра Лукашэнкі на мінулым тыдні пра палітзняволеных. ЕЗ спадзяецца, што пытанне вырашыцца ў гэтым годзе.

## Іна Соркіна – ахвяра антыбеларускай палітыкі ўладаў універсітэта



Іна Соркіна з гарадзенскага ўніверсітэта імя Янкі Купалы – чарговая ахвяра антыбеларускай палітыкі ўладаў універсітэта, кажуць прадстаўнікі дэмакратычнай супольнасці. Яе звольнілі з працы на гэтым тыдні, нягледзячы на выдатныя навуковыя публікацыі. Раней працу ва ўніверсітэце страцілі іншыя беларускамоўныя выкладчыкі: Андрэй Чарнякевіч і Вячаслаў Швед.

Паступовая русіфікацыя ў гарадзенскім універсітэце - гэта не толькі замена беларускай мовы на расейскую ў час заняткаў. Нават беларускамоўныя шыльды паасобных навуковых кафедраў замяняюць на расейскамоўныя.

## Заява на рэгістрацыю кандыдатуры Алеся Бяляцкага перададзеная ў Нобелеўскі камітэт

Заява на рэгістрацыю кандыдатуры беларускага праваабаронцы Алеся Бяляцкага на Нобелеўскую прэмію міру перададзена ў Нобелеўскі камітэт. Подпісы пад заявай збіралі дэпутаты польскага Сойму ад "Грамадзянскай Платформы" ды партыі "Права і Справядлівасць", кажа ініцыятар акцыі, Адам Ліпінскі з ПіС.



- Подпісы ўжо сабраныя і перададзеныя ў Нобелеўскі камітэт. Дэпутаты Польскага Сойму вылучылі Бяляцкага на Нобелеўскую прэмію міру 2014 года. Подпісы за вылучэнне супольна збіралі дэпутаты ад дзвюх парламенцкіх партый.

Гэта ўжо трэці раз, калі Бяляцкага вылучаюць кандыдатам на атрыманне Нобелеўскай прэміі міру. У 2012-ым годзе кандыдатура старшыні Праваабарончага цэнтру Вясна ўвайшла ў шорт-ліст.

# Жорсткая расплата

***Гэтыя радкі пішуцца тады, калі на Украіне ўсё больш разгараюцца палітычныя жарсці і сітуацыя становіцца ўсё больш напружанай. Краіна гэтая стаіць на парозе сапраўднай грамадзянскай вайны альбо аднабаковай бойні, калі ўлада брутальнай сілай душыць народны пратэст і падаўляе ўсялякі супраціў. Да гэтага застаўся толькі адзін крок і невядома, што можа выступіць дэтанатарам, а што фактарам стрымання вялікай крывавай агрэсіі.***

Тое, што адбываецца ў нашай суседняй з поўдня краіне зараз, можна было прадказваць яшчэ чатыры гады таму, калі ў 2010-ым Украіна абірала свайго новага прэзідэнта. У тым годзе гэтая краіна зрабіла страшную фатальную памылку – новым прэзідэнтам яшчэ ў дэмакратычных выбарах быў абраны Віктар Януковіч, маральнае аблічча і сутнасць якога былі відавочныя. У той выбарчай кампаніі мне давялося дастаткова час быць на Украіне, у Ровенскай вобласці, і назіраць за абодвума турамі выбарчага працэсу. У параўнанні з нашай Беларусі мяне тады прыемна ўразіла нацыянальная свядамасць жыхароў Украіны, а з іншага боку непрыемна здзівіла, а месцамі нават шакавала, палітычная няспеласць мясцовага люду. Вылілася апошняя ў тое, што выбралі лідарам дзяржавы чалавека, паводзіны і палітыка якога былі відавочныя і зараз прывялі да такога крызісу і грамадзянскага расколу. Кроў забітых зараз у Кіеве і на руках тых, хто тады кідаў выбарчыя бюлетэні за Януковіча.



Украіна расплачваецца зараз за свой страшны грэх. За тое, што яна не скарысталася заваёвамі мірнай, аксамітнай "аранжавай" рэвалюцыі. Гэта быў унікальны шанец пазбавіцца савецкага мінулага, пакончыць з аўтарытарнай уладай, з заганнымі метастазамі карупцыі і хабарніцтва. Цярпення хапіла толькі на адну прэзідэнцкую кадэнцыю. Я разумею, што людзям маглі не падабацца Віктар Юшчанка, ці Юлія Цімашэнка, дапускаю, што гэтыя кіраўнікі нарабілі шмат памылковага і нават кепскага, але я не мог ніяк зразумець і не разумею дагэтуль, як людзі маглі галасаваць за такую асобу як Януковіч! Ну не хацелі яны больш Юшчанку, ці Цімашэнку, але ж была і процьма іншых кандыдатаў – Арсень Яцанюк, Алег Цягнібок, куча нейкіх левых сацыялістаў, цэнтрыстаў... Словам – выбар, каштоўнасць якога ўкраінцы ацаніць не змаглі. Нават у той жа Ровенскай вобласці, дзе мне давялося назіраць за галасаваннем у першым і другім турах, нягледзячы на вялікую перавагу Цімашэнкі, значная частка электарату аддала свае галасы за таго, хто ўзяў курс "назад у СССР". У гэтым і выявілася палітычная няспеласць украінскага народу. Я ўпэўнены, што беларускае грамадства, дапусціўшы свой ракавы агульны выбар у 1994-ым годзе, такога ўжо б не зрабіла. Толькі ў беларусаў даўно ўжо няма права на такі выбар. Іх галасы ніхто не лічыць. Гісторыя не даруе народам фатальнага выбару зла. Непазбежна наступае пара жорсткай расплаты. Зараз чарга дайшла да Украіны.

Калі аналізаваць і прагназаваць сітуацыю, то цяжка прадбачыць пазітыўны сцэнар развіцця падзей. Найверагодней кліка Януковіча ўцягне раздробленую апазіцыю ў доўгі працэс перамоваў, якія наўрад ці дадуць шанцы і дывідэнды дэмакратычнай кааліцыі. Датэрміновыя прэзідэнцкія выбары правесці цяпер не ўдасца. Калі ж у грамадстве знойдуцца радыкальныя сілы супраціву, народнае паўстанне будзе жорстка задушана, рэпрэсіўныя дзеянні паскорацца, можа быць шмат ахвяраў. Але найбольш верагодная паўзучая рэакцыя, за гады свайго кіравання Януковіч стварыў механізмы рэпрэсій і падаўлення іншадумства, для гэтага ён паслядоўна ўмацоўваў сілавыя структуры і падводзіў "пад сябе" заканадаўчую сістэму. Яго тактыка апошнія два месяцы была простай – браць Майдан на зморанасць, рыхтаваць падаўленне і афармляць гэта ў рамках створанай уладай нібыта законнасці. За плячыма ў яго таксама і паслядоўны ў сваёй імперскай палітыцы "рускі брат". А вось Еўразвяз прадказальна ўмешвацца ў сітуацыю не будзе, абмежаваўшыся роляй пасіўнага назіральніка.

Цяжкі час прыйшоў для Украіны…

*Уладзімір Хільмановіч*

# Яны даказалі

***Яна выйшлі на Майдан. Яны стаяць у люты мароз насупраць добра экіпіраваных шэрагаў сілавікоў, пад грукат выбуховых гранат, пад абстрэлам, пад пагрозамі арышту, збіцця і нават пад пагрозай страты жыцця. Яны кажуць, што ім няма куды зыходзіць.***

Ніхто іх сілком не цягнуў. Яны прышлі самыя. Па поклічу душы, крыві і сэрца. Па парыву свайго сумлення і сваёй людскай вартасці. Яны падняліся з каленяў і ім вельмі спадабалася стаяць на нагах. Цяпер яны гатовыя рызыкаваць нават жыццём, абы толькі не згубіць гэтага велічнага пачуцця чалавечай і нацыянальнай годнасці.

Ім даводзяць, што недзе іх чакае ўтульная кватэра, мяккая канапа, гарачая вячэра, цёплы ложак і слязлівы тэлесерыял, дзе выдуманыя героі змагаюцца за прыдуманую праўду. Але яны не жадаюць жыць чужым жыццём. Яны самыя выйшлі змагацца за Праўду. І не за прыдуманую, а за сапраўдную. Яны самыя сталі Героямі. І не тэлевізійнымі, а рэальнымі. Героямі сваёй Зямлі і свайго Часу. Героямі, якія робяць Гісторыю сваёй Радзімы. Яны хочуць быць Людзьмі, якія не могуць і не жадаюць жыць без чалавечай Вартасці і Гонару. Яны здабываюць годную будучыню для сябе, для сваіх дзяцей, для свайго народу…

Яны кажуць што там, куды іх хочуць зноў загнаць няма праўды, няма людскасці, няма жыцця… Там карумпаваная і злачынная ўлада, чужацкія ўплывы, прадажныя суддзі, фальшывая міліцыя, крывадушныя чыноўнікі і жывёльны страх…

Страх яны ўжо прагналі. А цяпер праганяюць крывадушных чыноўнікаў, фальшывую міліцыю, прадажных суддзяў, чужацкія ўплывы і карумпаваную ды злачынную ўладу…

Яны самаарганізаваліся аб’яднаўшыся вялікай ідэяй і даказалі, што грамадству не патрэбна аж столькі міліцыі, каб быў парадак. У іх парадак ёсць. Там кожны дапамагае кожнаму, там нікога не трэба прымушаць штосьці рабіць. Але ўсе стараюцца быць карыснымі агульнай справе. І не чакаюць за гэта ні заробку, ні падзякі. Яны паказалі, што такія структуры як “Беркут”, АМАП ці ОМОН не толькі не патрэбныя грамадству, але яны нават і ўладзе мала якую карысць даць у змозе, калі народ бярэ кіраванне ў свае рукі.



Яны паказалі сваёй заеўшайся ўладзе, што звычайныя людзі аб’яднаныя высокімі ідэямі могуць усё. Нават змесці гэтую ўладу ўраганам праўды і моцы.

Яны паказалі сваім айчынным палітыкам, што пры вострай патрэбе яны могуць абысціся і без іх. Бо сапраўдныя палітыкі нараджаюцца там, у віхурах падзей і змаганні.

Яны паказалі сваім сілавікам, што ніякая сіла і аніякая зброя не ў змозе паставіць на калені чалавека, які здолеў прагнаць страх.

Яны паказалі таму Крамлю, які іх намагаўся купіць сваімі міл’ярдамі, газам ды нафтай, што яны не прадаюцца. Яны не жабракі і не папрашайкі як іх лакейская ўлада. Яны не гандлююць Радзімай.

Яны паказалі нерашучаму Захаду, што могуць абысціся і без яго дапамогі.

Яны паказалі самым сабе і ўсім, што яны людзі. І гэта галоўнае, што яны паказалі.

Як жаласліва глядзяцца зараз многія ўкраінскія палітыкі, дэпутаты, а асабліва былыя прэзідэнты, у якіх так і не хапіла рашучасці і смеласці заняць хоць які бок. Сапраўды, не гэтым баязліўцам кіраваць такім геройскім народам. Як збянтэжана і агідна глядзяцца расейскія палітычныя дзеячы, якія лічылі Украіну ўжо сваёй вотчынай. Як разгублена глядзіцца большасць палітычнай эліты Захаду з сваімі запозненымі пасяджэннямі з так і не прынятымі рашэннямі. І які ўрок далі нашы суседзі многім беларускім палітыкам, якія працягваюць сцвярджаць, што ўблыталіся ў чарговую выбарчую кампанію з-за таго, што гэта ледзве не адзіная легальная мажлівасць паразмаўляць з суайчыннікамі. Украінцы даказалі, што дзеля размоў з сваімі суайчыннікамі бессэнсоўных выбараў чакаць не абавязкова.

Цяжка сказаць чым закончыцца гэты канкрэтны этап іх барацьбы, і як доўга працягнецца іх змаганне. Бо ўлада працягвае палохаць Майдан жорсткім сілавым разгонам і гатовая на яго пайсці. Але можна з упэўненасцю сцвярджаць, што Майданаўцы галоўнае ўжо зрабілі – Незалежнасць сваёй Краіны адстаялі.

*Віктар Сазонаў*

# Зварот арганізацый грамадзянскай супольнасці і грамадскіх актывістаў Беларусі з нагоды сітуацыі ва Украіне



**Еўрапейскаму парламенту**
**Савету Еўрапейскага саюза**
**Еўрапейскай камісіі**
**Кангрэсу ЗША**
**Прэзідэнту ЗША Бараку Абаму**
**Дзяржсакратару ЗША па пытаннях Еўропы і Еўразіі Вікторыі Нуланд**
**Прэзідэнту Расіі Уладзіміру Пуціну**
**Генеральнаму сакратару ААН Пан Гі Муну**
**Прэзідэнту Украіны Віктару Януковічу**
**Лідэрам апазіцыйных партый Украіны**
**Украінскаму народу**
**Ад арганізацый грамадзянскай супольнасці і грамадскіх актывістаў Беларусі**

## Зварот

У гэтыя дні, калі сітуацыя ва Украіне выйшла з-пад кантролю супрацьстаячых сіл, калі пачалося кровапраліцце, калі ў Кіеве ідуць вулічныя баі з прымяненнем зброі, мы не можам заставацца ў баку. Украінскі народ - наш братэрскі народ, праблемы якога беларусы добра разумеюць. Супрацьстаянне ва Украіне і яго драматычная развязка, на нашу думку - гэта вынік дзеянняў уладаў, якія ўпарта ігнаруюць патрабаванні свайго народа, цалкам вычарпаўшы ягоны давер, якая прымае абсурдныя законы і няўмольна рухаецца па шляху да ўсталявання дыктатуры ў краіне. На наш погляд, памылкі апазіцыйных палітыкаў і пратэстуючых таксама не спрыялі мірнага вырашэння сітуацыі.

Мы лічым, што кровапраліцце ва Украіне цяпер можна спыніць. Мы перакананыя, што спыненне гвалту і баявых дзеянняў не пагоршыць становішча пратэстуючых і не прывядзе да іх паразы. Бо пратэст моцны не гвалтоўнымі дзеяннямі, а вернасцю сваім прынцыпам, гатоўнасцю вырашаць праблемы і самаарганізацыі, а гэтага, як мы ўжо бачылі, ва ўкраінскага народа не адбярэш!

Мы заклікаем палітыкаў і лідэраў Майдана зрабіць усё, каб узяць сітуацыю пад кантроль і пераканаць мітынгоўцаў спыніць гвалт. Спыненне гвалту не азначае, што пратэстоўцы не змогуць абараняцца і будуць павінны пакінуць свае пазіцыі.

Мы заклікаем паўстанцаў весці перамовы з любымі дамоваздольнымі і дзеяздольнымі суб'ектамі, здольнымі кантраляваць сітуацыю нават на абмежаваных участках - у пэўным прасторы ў тэатры вулічных дзеянняў, у сілавых структурах, у структурах дзяржаўнай улады.

Мы заклікаем народ Украіны не ставіцца да перамоўнага працэсу, да палітычных крокаў, якія сёння яшчэ магчымыя і эфектыўныя, як да «зацягвання часу». Гвалтоўныя дзеянні не прывядуць да хуткага рашэння праблемы, а толькі зробяць сітуацыю непадкантрольнай.

Мы заклікаем сілавыя структуры, улады Украіны пайсці на рэальны дыялог са сваім народам, нават калі патрабаванні народа здаюцца уладам непрымальнымі.

Мы заклікаем сілавікоў, міліцыю, а таксама ангажаваных дзяржавай дзеячаў спыніць пераслед, выкраданні, збіццё пратэстуючых.

Мы заклікаем ўсе бакі, так ці інакш задзейнічаныя ў развіцці палітычнага крызісу ва Украіне, кансалідавацца і ўзяць на сябе міратворчую місію. Мы перакананыя ў тым, што асабістая прысутнасць прадстаўнікоў зацікаўленых у вырашэнні канфлікту краін ААН, міжнародных арганізацый у гэтыя дні ў Кіеве будзе выконваць ролю стрымлівае эскалацыю фактару і дапаможа прадухіліць новыя і масавыя ахвяры.

Згуртаванасць, арганізацыя і паслядоўнасць - гэта гарантаваны заклад сумесных паспяховых дзеянняў!

# Жыць па сродках

***Ну вось дачакаліся! А то ўсё думалі, гадалі, напружвалі фантазію каб прадказаць, які ж падарунак гэтым разам нам падкіне ўлада на Навагоднія і Калядныя святы. На першым месцы па ўсіх прагнозах, канешне, быў даляр. Усенароднай падзеяй стала акурат чаканне імклівага скачка курсу даляра. Яго рэзкае павышэнне некалькі гадоў таму засталося не толькі ў памяці людзкой, але хіба што нават у крыві. Памятаюць жыхары сінявокай, як зялёны скочыў так высока, што нацыя мабыць упершыню так хутка і адначасна працверазела пасля навагодняй гулянкі.***

Таму жыхары стабільнай краіны перад святамі не палянаваліся паштурмаваць абменнікі, каб памяняць купюры свайго нацыянальнага банку на якія-небудзь іншыя. Але перапалох быў дарэмны. Валюта, як і чакалі, хоць і не стаяла на месцы, рвалася да новых вышынь, але не так панічна як яе скупшчыкі. За яе гэту работу зрабілі кошты ў крамах. Яны падмігнулі валюце і зрабілі сваю справу з сарказмам ды іроніяй.

Ну а што на гэта кіраўніцтва краіны? Розныя прыдумкі ўраду, такія як падатак з аўтамабілістаў, і своечасова падкінутая Расіяй чарговая пазыка, дапаглі зрабіць добры выраз пры вядома якой гульні. А што яшчэ яны прыдумаюць у будучым! Ад ідэі пабораў за тое, што не маеш працы, яшчэ не адмовіліся. І іншыя прыдумкі як сарваць грошы з свайго грамадзяніна знойдуцца. Фантазія ў гэтым курунку ў кіраўніцтва працуе актыўна. І толькі ў гэтым кірунку. Але нават і тут не ўсе слугі народу сталі моцна маркоціцца пра той прыстойны выраз твару пры халера ведае якой гульні.

Сам галава адміністрацыі на семінары ідэолагаў заявіў, што ва ўмовах жорсткай канкурэнцыі жыхарам сінявокай трэба навучыцца жыць па сродках і цаніць тое, што ёсць. І заявіў, што яго ўражвае нежаданне людзей працаваць і зарабляць грошы. І што многія маюць завышаныя патрабаванні да ўзроўня жыцця і дабарабыту. Таму ідэолагі мусяць вярнуць людзей у рэаліі сённяшняга дня, і паставіць іх у такія ўмовы, дзе кожны будзе зарабляць сваёй працай і розумам



і плаціць па поўнай за тое, што мае. Вось так. Падарунка мы ўсё ж дачакаліся. З Калядамі і Новым годам беларусы!

Большага цынізму прыдумаць цяжка! Калі гэта беларусы сталі гультаямі?! Адкуль гэтыя звесткі, што нашыя людзі нежадаюць працаваць і зарабляць грошы? У нас што, на прадпрыемствы рабочыя не выходзяць? А каторыя выходзяць можа толькі сядзяць ды кураць і нічога не робяць? Ці можа у нас землі сялянамі закінутыя і пустуюць? І ніхто на іх не сее і не збірае ўраджай?

Як у высокапастаўленага чыноўніка язык павярнуўся сказаць такое?! Можа ён не ведае, што пасля распаду Савецкага Саюзу менавіта Беларусь лічылася найбольш перспектыўнай рэспублікай у эканамічным плане. Можа ён не памятае, з якім інтузіязмам нашы людзі кінуліся здабываць дабрабыт сабе і сваёй краіне? Варта толкі было рынкавую эканоміку запусціць і крочыць у Еўропу. То можа варта прыпомніць, хто агітаваў гэтага не рабіць!

Можа акурат тыя ідэолагі, перад якімі выступаў кіраўнік адміністрацыі, якраз і жывуць не па сродках? Бо акурат яны нічога не вырабляюць, а заробак атрымліваюць. Як і тая безліч АМАПу, колькасць якога перавышае ўсе фантазіі. І тая колькасць чыноўнікаў, якія маюць і заробкі, і кабінеты, і сувязі… Вось толькі ці кожны з іх карысць прыносіць?

А народ у нас як абрабляў зямельку, так і абрабляе, як вырабляў дэталі, так і вырабляе, як працаваў, так і працуе. І вось зараз яго зрабілі вінаватым. Жыве, маўляў, ён не па сродках. Можа яму гэтыя сродкі з казны на галаву задарма сыпуцца? Хто яму іх дае? Хто яго ашчасліўлівае нізашто? Ці можа ўсё наадварот. ¨н сам свае сродкі зарабляе сваім мазалём. І калі бездарныя кіраўнікі не ў стане палепшыць сітуацыю на прадпрыемствах, то яго за што вінаваціць? Можа проста, трэба ж каб быў нехта вінаваты.

Раней ва ўсім была вінавата апазіцыя. Але яе знішчылі. Тое што засталося, апазіцыяй назваць цяжка. То цяпер вінаваты народ. Нехта ж мусіць быць вінаваты. Заклікаюць яго жыць па сродках, якіх то ўжо і няма, як і той апазіцыі.

Ну а хто будзе вінаваты, калі і народу не стане?

*Віктар Сазонаў*

# Каляндар памятных і круглых датаў Гарадзеншчыны на люты 2014 году

**1 лютага**

*140 гадоў таму (1874) – У мястэчку Луна (Мастоўскі р-н) нарадзіўся Кастусь Бялецкі, беларускі грамадзка-палітычны дзеяч.*

**2 лютага**

*425 гадоў таму (1589) – Кароль Жыгімонт III пацьвердзіў Гародні ўсе прывілеі.*




*95 гадоў таму (1919) – У Гародні выйшаў першы нумар газэты “Беларускі народ”, выдаванай Міністэрствам беларускіх спраў.*

**3 лютага**

*50 гадоў таму (1964) – Памёр Станіслаў Станкевіч (нар. у 1886 у в. Арляняты, Смургонскі р-н), беларускі паэт, кнігавыдавец. З вёскі Арляняты выйшла цэлая плеяда выдатных дзеячаў з роду Станкевічаў.*

**4 лютага**

*120 гадоў таму (1894) – У фальварку Крыстынопаль (Смургонскі р-н) памёр Адам Гурыновіч, беларускі паэт, фальклярыст.*

**8 лютага**

*105 гадоў таму (1909) – Памёр Мечыслаў Карловіч, кампазітар, дырыжор, сын мовазнаўца і этнографа Яна Карловіча. Нараджэнец в. Вішнева (Смургонскі р-н).*

*100 гадоў таму (1914) – У Баранавічах нарадзіўся Валянцін Таўлай, паэт, дзеяч заходнебеларускага руху.*

**9 лютага**

*15 гадоў таму (1999) – У в. Валеўка (Навагрудзкі р-н) памёр Уладзімір Урбановіч, беларускі краязнавец, пэдагог, культуроляг.*

**10 лютага**

*105 гадоў таму (1909) – Памёр Эдвард Паўловіч, мастак, асьветнік, удзельнік паўстаньня 1863-64, мемуарыст. Вучыўся ў Жыровічах і Слоніме.*

*20 гадоў таму (1994) – У Гародні пасьля зьбіцьця невядомымі памёр Антон Сьцяпура, дзеяч беларускага руху, сябра БНФ. Пахаваны на могілках па прасп. Касманаўтаў.*

**11 лютага**

*35 гадоў таму (1979) – У Нью-¨рку памёр Мікола Гарошка, дзеяч эміграцыі (ЗША), першы старшыня БАЗА. Нараджэнец в. Трашчыцы (Карэліцкі р-н).*

**13 лютага**

*95 гадоў таму (1919) (паводле іншых зьвестак 13 сакавіка) – Памёр Аляксандар Грыкоўскі (нар. у 1893 у в. Корніна, Беласточчына), беларускі грамадзкі дзеяч, педагог. У 1916 скончыў Сьвіслацкую настаўніцкую гімназію, жыў і працаваў у Гародні.*

*40 гадоў таму (1974) – У Будславе (Мядзельскі р-н) памерла Паўліна Мядзёлка, акторка, дзяячка беларускай культуры. Часта бывала ў Гародні. Пахавана ў Будславе.*

*30 гадоў таму (1984) – У Інавроцлаве (Польшча) памёр Язэп Найдзюк (Александровіч), дзеяч заходнебеларускага вызвольнага руху, выдавец, гісторык. Нараджэнец в. Бойдаты (Ваўкавыскі р-н).*

**15 лютага**

*10 гадоў таму (2004) – У Менску ў шпіталі памёр Аляксандар Міхальчык, грамадзка-палітычны актывіст, старшыня Гарадзенскай гарадзкой арганізацыі партыі БНФ. Пахаваны ў Гародні на могілках па прасп. Касманаўтаў.*

**19 лютага**

*35 гадоў таму (1979) – Памёр Янка Генюш, беларускі дзеяч, бібліяфіл, доктар, вязень ГУЛАГу. Пахаваны ў Зэльве.*

**20 лютага**

*125 гадоў таму (1889) – У в. Балотца (Навагрудзкі р-н) нарадзіўся Фёдар Турук, беларускі грамадзка-культурны дзеяч, гісторык, педагог.*

**21 лютага**

*Міжнародны дзень роднай мовы.*

**24 лютага**

*435 гадоў таму (1579) – Мір атрымаў Магдэбургскае права.*

*55 гадоў таму (1959) – Адчынены Лідзкі краязнаўчы музей.*

**25 лютага**

*105 гадоў таму (1909) – У Слоніме нарадзіўся Сяргей Дарожны (сапр. Серада), беларускі пісьменьнік, перакладнік.*

**26 лютага**

*80 гадоў таму (1934) – У в. Збляны (Лідзкі р-н) нарадзіўся Аляксей Логвін, адзін з стваральнікаў моладзевай падпольнай антысталінскай арганізацыі, вязень ГУЛАГу.*

**27 лютага**

*95 гадоў таму (1919) – Была створана Літоўска-Беларуская ССР з сталіцай у Вільні.*

***Кожны аўторак у эфіры незалежнай радыёстанцыі "Радыё Рацыя" - праграма "Людзьмі звацца!", якая асвятляе падзеі, датычныя правоў чалавека на Беларусі. Час выхаду ў эфір – 15-05 (паўтор - серада 0:05-1:00 і субота 7:05-8:05). Таксама ў гэты час яе можна слухаць праз інтэрнэт на сайце***

**www.racyja.com**

***Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па ўсёй Беларусі вы можаце атрымаць на сайце***

**www. spring96.org**




***На сайце***

**www.palitviazni.info**

***вы таксама можаце атрымаць інфармацыю пра палітычных зняволеных у Беларусі***

***Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па Гарадзеншчыне вы можаце атрымаць на сайце***

**www.harodniaspring.org**



***Праваабарончая інфармацыя з іншых рэгіёнаў Беларусі:***

**Берасце - www.brestspring.org**
**Віцебск - www.vitebskspring.org**
**Гомель - www.gomelspring.org**
**Магілёў - www.mahilyowspring.org**

Гарадзенскі праваабарончы
інфармацыйна-аналітычны
бюлетэнь «Прэзумпцыя»
выходзіць 1 раз у месяц
наклад 299 асобнікаў
для нутранога карыстаньня

падрыхтаваны да друку:
студзень 2014
e-mail:prezumpcyja@gmail.com
распаўсюджваецца задарма
пры перадруку спасылка
абавязковая

